Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 840.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 2-36-32-89

# НАВІНЫ



Аўторак, 8 верасня 1998 г. | № 94 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Лепш эміграцыя, чым турма

**Былы студэнт Мінскага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі Алесь Мухін папрасіў палітычнага прытулку ў Польшчы.**

З гэтай просьбай да польскіх уладаў ён звярнуўся 2 верасня ў Варшаве. Пяць месяцаў таму хлопец быў выключаны з універсітэта фактычна за палітычную дзейнасць. Гэта здарылася пасля таго як Мухін быў затрыманы міліцэйскім патрулём за надпісы на сценах лозунгаў «Жыве Беларусь» і «Луку на муку». Суд расцаніў гэта як «злоснае хуліганства» і прыгаварыў Мухіна да пазбаўлення волі на 12 месяцаў умоўна з адтэрміноўкай выканання прысуду на год. Былы студэнт вырашыў не выпрабоўваць лёс і падаўся ў эміграцыю.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Студэнты – на бульбу

*З гэтага панядзелка гродзенскае студэнцтва замест вучобы будзе капаць бульбу*

З калгасаў паступіла заяўка ажно на 6.755 чалавек. І гэта ў вобласці, дзе калгасы нашмат мацнейшыя, чым на ўсходзе краіны. Студэнтам паабяцалі, што больш за месяц іх на палетках не пратрымаюць.

Тым часам, студэнты некаторых мінскіх ВНУ таксама адпраўляюцца на сельскагаспадарчыя работы. Учора, напрыклад, 70 студэнтаў першага і другога курсаў факультэта прыродазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта накіраваліся ў дзве гаспадаркі Крупскага раёна. Як паведаміў прарэктар БДПУ Уладзімір Атрошчанка, студэнты правядуць «на бульбе» каля месяца — міністэрства адукацыі не дазваляе адрываць студэнтаў ад вучобы на большы тэрмін.

У Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі нам паведамілі, што студэнты хутчэй за ўсё паедуць «на бульбу», але калі — гэта пакуль што невядома.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце, Эканамічным і Тэхналагічным універсітэтах, а таксама ва Універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі нас запэўнілі, што студэнты гэтых ВНУ сёлета будуць займацца толькі вучобай — працоўная вахта на палях Беларусі ім не пагражае.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Рынак рэагуе імгненна

**Рэзкім павышэннем цэнаў адрэагавалі рынкі Мінска на крызіс у Расіі і фінансавую нестабільнасць у Беларусі.**

У сярэднім кошты на імпартныя прадукты харчавання падняліся за мінулы тыдзень на трэць. Крыху менш, але падаражэлі і айчынныя прадукты. Ролю пэўнага тормазу пакуль яшчэ адыгрываюць кошты ў дзяржаўных крамах, дзе яны рэгулююцца адміністратыўнымі захадамі. Але падобна на тое, што гэтая «плаціна» хутка можа не вытрымаць. З кожным днём у пагоню за адносна таннымі прадуктамі ўключаецца ўсё больш людзей, а асартымент тавараў хутка бяднее.

Напрыканцы тыдня я наведаў Камароўскі ды Ждановіцкі прадуктовыя рынкі, а таксама шэраг дзяржаўных крамаў. На рынках зноў з'явіліся даўжэзныя чэргі, як было некалькі гадоў таму. Чэргі паўсюль, дзе гандлююць айчынным таварам — мукой, макаронным вырабамі ды крупамі. Пры гэтым пакупнікі ўжо не звяртаюць увагу на тое, што мука можа быць шэрая, а макароны брудна-жоўтыя: галоўнае — купіць танней і пабольш, на запас. Праўда, і выбару няма: мука з Венгрыі, якой яшчэ нядаўна было на рынку шмат і якая палюбілася многім гаспадыням, паўсюль знікла.

У многіх дзяржаўных крамах у нядзелю ўвогуле не было ніякай мукі, а асартымент макаронаў зменшыўся да аднаго-двух відаў. З крупаў — пераважна ячная сечка, там-сям яшчэ можна набыць рыс, грэчку ды пшано. Паўсюль зніклі манныя крупы. Прычым часам можна ўбачыць дзіўны перакос: на адным прылаўку вермішэль па 22 тыс. і мука па 44 — як быццам муку робяць з макаронаў, а не наадварот.

Асобна варта сказаць пра цукар. Гэты прадукт і раней быў у нас своеасаблівай лакмусавай паперкай на рынку харчавання. Нічога не змянілася і цяпер: за мінулы тыдзень попыт на цукар павялічыўся амаль удвая, і гандляры з гэтага скарысталі. Ва ўсякім разе ў суботу гандаль цукрам на Камароўскім рынку ішоў у асноўным мяшкамі — па 35 тыс. за кілаграм. І гэта яшчэ не рэкорд. На Ждановіцкім рынку ў нядзелю цукар раскупілі нават і па 44 тысячы за кіло. Не скажу, што ў крамах цукру зусім няма: у панядзелак яго яшчэ можна было знайсці па 28 тыс. (а ў некаторых і па 26 тыс.), але — адстаўшы немалую чаргу і толькі 2 кг у рукі.

*(Працяг на стар. 2)*

## За бюст Суворава пасадзілі Плешчанку

**Сёмыя суткі ў Віцебскім следчым ізалятары знаходзіцца Уладзімір Плешчанка — актывіст БНФ, якога абвінавачваюць у знішчэнні помніка Суворову.**

Як мы ўжо паведамлялі, бюст Суворава, які стаяў паблізу райаддзела міліцыі, знік з пастамента ў ноч на 1 верасня. Адказнасць на сябе ўзяў знакаміты Мірон, які прыляпіў да пастамента адпаведную запіску. На наступны дзень міліцыя затрымала трох віцебскіх актывістаў — Уладзіміра Плешчанку, Барыса Хамайду, Юрася Карпава. Двух апошніх выпусцілі з пастарунка праз 7 гадзінаў, а Плешчанку пакінулі пад вартай. 4 верасня следчы Аўчыннікаў прад'явіў яму абвінавачванне па двух артыкулах Крымінальнага кодэксу: «Злоснае хуліганства, якое вызначаецца выключным цынізмам і дзёрзкасцю», «Наўмыснае знішчэнне гісторыка-культурных каштоўнасцяў» (да двух гадоў пазбаўлення волі).

На час следства пракурор пастанавіў трымаць 50-гадовага У.Плешчанку пад вартай, матывуючы гэта тым, што «на волі ён можа перашкодзіць выкрыццю злачынства». Тым часам Плешчанка заявіў следчаму, што не мае ніякага дачынення да знішчэння бюста Суворава. Наколькі нам вядома, у следства таксама няма ніякіх доказаў вінаватасці Плешчанкі.

**Іван ЛІЦВІН**

### *Візіты*

***З афіцыйным візітам у Беларусі знаходзіцца генеральны дырэктар ЮНЕСКА Федэрыка Маёр. Учора ён сустракаўся з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і кіраўніком урада Сяргеем Лінгам. Завершыцца візіт Федэрыка Маёра 8 верасня сустрэчай са студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта.***

### *Мытны саюз*

***Сустрэча прэзідэнтаў «чацвёркі» (Беларусь, Расія, Казахстан, Кіргізія) перанесена з 10 верасня на больш позні тэрмін.***

### *Турнэ*

***На брыфінгу ў МЗС намеснік міністра Ніна Мазай паведаміла, што прэзідэнт Лукашэнка не паедзе ў Нью-Йорк на сесію Генеральнай асамблеі ААН (як гэта планавалася раней). На чале беларускай дэлегацыі ў ААН паляціць міністр Іван Антановіч.***

## У Мінску адсвяткуюць перамогу пад Оршай

**Прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту правядуць сёння ў Мінску акцыю з нагоды Дня беларускай вайсковай славы.**

Гарадскія ўлады дазволілі гэе правядзенне. Шэсце пачнецца ў 17:30 ад плошчы Я.Коласа. Акцыя завершыцца каля Опернага тэатра кароткім мітынгам і святочным канцэртам.

**А.Н.**

# Ленін быў там лішні



**У нядзелю ў Оршы было вялікае свята — Дзень беларускага пісьменства і друку.**

У многім свята было афіцыйна-пампезным. Дзяўчаты ў стылізаваных пад народныя строях насілі хлеб-соль сталічным чыноўнікам, а тыя ў сваю чаргу гаварылі стандартныя прамовы. Што ж да самога беларускага пісьменства, то з нагоды свята арганізавалі выставу, прысвечаную класіку беларускай літаратуры Уладзіміру Караткевічу, а на будынку, дзе У.Караткевіч нарадзіўся 26 лістапада 1930 года, устанавілі мемарыяльную пліту з абяцаннем, што тут будзе музей пісьменніка.

Пачалося ж святкаванне Дня беларускага пісьменства на замчышчы старажытнага горада, заснаванага ў 1067 годзе. Гасцям свята нагадалі, што Аршанскі край мае багатыя традыцыі кнігадрукавання, асабліва калі прыгадаць імёны ўраджэнцаў Усходняй Беларусі Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца і Спірыдона Собаля. А ўвогуле, адной толькі «кніжнай» тэматыкай не абыйшлося. За дзяўчатамі, якія на сцэне пад адкрытым небам танчылі народныя танцы, сурова назіраў Ленін, а ён, здаецца, не быў вялікім аматарам беларускай кнігі. Не забываючыся на традыцыі дзядоў, маладыя хлопцы праходжваліся з харугвамі *(фота ўверсе)*. А дзецям было сваё свята: яны спаборнічалі ў будаўніцтве сапраўдных сярэднявечных замкаў — толькі што не з камянёў, а з пяску *(на здымку злева)*.





**Магдалена НЕПАКАЙ**

## З'езд беларусаў Амерыкі

**У мінулыя выхадныя ў амерыканскім горадзе Нью-Брансвік прайшоў з'езд беларусаў Паўночнай Амерыкі, у якім удзельнічала больш за сто дэлегатаў са Злучаных Штатаў і Канады.**

У якасці ганаровых гасцей на з'ездзе прысутнічалі прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвіла, лідэр БНФ Зянон Пазьняк, кангрэсмен ад штата Нью-Джэрсі Фрэнк Палонэ, а таксама былы пасол ЗША ў Беларусі, прарэктар дыпламатычнай акадэміі ў Вашынгтоне Дэвід Суорц.

Удзельнікі з'езда абмеркавалі праблемы, звязаныя з цяперашнім палітычным становішчам у Беларусі, ролю дыяспары ў дэмакратызацыі беларускага грамадства, а таксама пытанне пераемнасці традыцыяў беларускай эміграцыі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Рынак рэагуе імгненна

(Пачатак на стар.1)

Збіць хвалю ажыятажу можна толькі прапановай вялікай колькасці тавараў. Пакуль рынку ўдаецца трымаць належную прапанову мяса і мясных вырабаў, асартымент якіх істотна не паменшыўся. Але відавочна, што попыт на гэты тавар вызначаецца перш за ўсё паўнатой кашалькоў нашых суайчыннікаў, а там зусім нягуста.

Выразка са свініны тыдзень таму каштавала на Камароўцы тыя ж 180—200 тыс., што і раней; па 130—150 тыс. ішло і сала. Вядома ж, «мяснікі» скардзяцца, што ім не ўдаецца падняць цэны, як гэта зрабілі гандляры рознымі заморскімі прысмакамі. «Бяруць, як звычайна, і па новых коштах», — гавораць затое гандляры кавай ды гарбатай, якія набываюць тавар за мяжой за цвёрдую валюту.

Чаго стала яўна менш — дык гэта рыбы, а кошты значна выраслі. На рынку ў Ждановічах пуставалі два рады, дзе раней бойка гандлявалі селядцамі, а на Камароўцы кошты на рыбу дзіўным чынам зраўняліся. Марожаныя мінтай, хек, зубатка ці аргенціна каштавалі амаль аднолькава, і ўсе — больш чым за 100 тысяч за кіло. Па словах «рыбакоў», іхні тавар будзе і надалей даражэць у адпаведнасці з ростам курса долара.

Што да ўраджаю з беларускіх палёў і агародаў, то тут кіраўнікі выбуху цэнаў не назіраецца, але і таннейшымі садавіна ды гародніна не сталі. Памідоры трымаюцца на ўзроўні 35—50 тыс., яблыкі — 20—25 тыс., а бульба — ад 12 да 18 тысяч. Заўважым, што бульбу і месяц таму прадавалі за тыя ж грошы. Высновa з гэтага простая: назапасіць таннай бульбы на зіму не ўдасца. Тым, хто збіраецца засыпаць некалькі мяхоў у склеп ці ў скрыню на лесвічнай пляцоўцы, раім не чакаць, а самому паехаць па бульбу ў бліжэйшы калгас. Так дакладна будзе танней.




Каўбаса пакуль ёсць — таму што дарагая.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*А.Лукашэнка:*

## «Мы гатовыя даць любому па зубах»

**На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка наведаў родны Шклоўскі раён і, як заўжды, сустрэўся з «простым» народам.**

Сустрэча праходзіла ў саўгасе «Гарадзішча». Прэзідэнт цікавіўся, як жывуць людзі. Людзі сказалі, што жывуць добра — дзякуючы палітыцы прэзідэнта. Расчулены Рыгоравіч пацікавіўся, ці трэба прымаць дэкрэт аб узмацненні дысцыпліны і парадку. У такім дэкрэце, маўляў, трэба даць кіраўнікам права караць парушальнікаў дысцыпліны. Народ, радасны ад таго, што з ім раяцца, пагадзіўся з земляком. Па словах прэзідэнта, сёння дырэктары нічога не могуць зрабіць з парушальнікамі і «*таму атрымліваюцца розныя канфлікты*».

Падчас знаходжання ў Рэчыцкім раёне Гомельскай вобласці Аляксандр Лукашэнка выказаўся аб прыярытэтах знешняй палітыкі РБ. Як паведамляе БелаПАН, на першае месца прэзідэнт паставіў беларуска-расійскі саюз, на другое — адносіны з Украінай, якія павінны будавацца найперш на ўзаемадзеянні. У якасці наступнага прыярытэту ідзе Азія і, у прыватнасці, В'етнам. І толькі потым Лукашэнку цікавяць адносіны з заходнімі дзяржавамі. Прэзідэнт падкрэсліў: «*Беларусь зацікаўленая ў развіцці шматбаковых адносінаў з Захадам. Але пры гэтым мы не адмовімся ад сваіх нацыянальных інтарэсаў... Мы гатовыя даць любому па зубах, хто палезе на нашую тэрыторыю*». Хто ж збіраецца да нас «лезці» — прэзідэнт не сказаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Хто на вёсцы плаціць падаткі?

*Ад прадпрымальнікаў больш толку, чым ад калгасаў*

**Яшчэ паўтара года назад у Пінскім раёне было 48 камерцыйных прадпрыемстваў, сёння засталося 36. У паўтара раза скарацілася і колькасць прадпрымальнікаў.**

За апошнія тры месяцы ў раёне не зарэгістравана ніводнага новага прыватнага прадпрымальніка або прадпрыемства. Нягледзячы на гэта, камерцыйныя структуры і прадпрымальнікі даюць у раённы бюджэт 5% плацяжоў. Параўнайце: 32 калгасы і саўгасы толькі нямногім больш за 3 працэнты. Здавалася б, мясцовыя ўлады павінны падтрымліваць прадпрымальніцтва. Але ж, на жаль, адбываецца ўсё наадварот. Мясцовыя органы ўлады выдаюць нарматыўныя акты, у адпаведнасці з якімі дзяржаўным прадпрыемствам, напрыклад, забаронена купляць тавары ў прыватных фірмаў. Гэтыя дзеянні яўна супярэчаць артыкулу 13 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім замацавана роўнасць усіх форм уласнасці. Але пінскія ўлады на гэта не зважаюць.

**Віктар ЯРАШУК**

## У Латвіі чакаюць беларускія грузы

**Беларускія структуры ўсур'ёз зацікавіліся латвійскімі марскімі портамі.**

На мінулым тыдні ў Рызе адбылася сустрэча латвійскага міністра эканомікі з беларускім міністрам па кіраванні дзяржмаёмасцю, а таксама з часова павераным у справах Рэспублікі Беларусь у Латвіі. Госці з Мінска падкрэслілі, што беларускія прадпрыемствы зацікаўленыя ў тым, каб накіроўваць свой тавар праз порты Латвіі. Акрамя таго, беларусы плануюць больш актыўна выкарыстоўваць для свайго бізнесу спецыяльныя эканамічныя зоны (СЭЗ) Латвіі і ствараць там сумесныя прадпрыемствы. У бліжэйшы час група прадпрымальнікаў з Беларусі паедзе ў Латвію на разведку.

**Вераніка ФЕДАРЭНКА**

## Свой храм у Вільні

**Беларусы-каталікі ў Вільні зноў атрымалі свой храм: арцыбіскуп Віленскі Юозас Бацкіс асвяціў нанова касцёл св.Барталамея.**

Віленскія беларусы дамагаліся гэтага дзесяткі гадоў. Нягледзячы на тое, што пры касцёле не будзе афіцыйна зарэгістраванай парафіі, кожны зможа наведаць службу Божую ў гэтым храме, падкрэсліў арцыбіскуп.

Касцёл св.Барталамея пабудаваны ў стылі позняга класіцызму. Пасля вайны на працягу доўгага часу тут размяшчаліся майстэрні скульптараў, і над храмавымі скляпеннямі спачатку было створанае мноства манументаў савецкага стылю, у тым ліку некалькі дзесяткаў Леніных, а пасля ўзнаўлення незалежнасці Літоўскай дзяржавы майстры заняліся вырабам зусім іншых рэчаў — пераважна касцельных скульптураў для Віленскай катэдры.

Пакуль доўжыліся спрэчкі паміж вернікамі і скульптарамі, якія не хацелі высяляцца з храма, ксёндз Ян Шуткевіч праводзіў службы побач з касцёлам. Цяпер набажэнствы будуць адбывацца як належыць.

*ELTA*

## Для беларусаў месцаў няма?

**На многіх гродзенскіх школах з'явіліся ўлёткі з надпісам: «У Гродне не засталося ні адной беларускай школы».**

Апроч гэтага, можна ўбачыць такі плакат — першакласнікі перад дзвярыма школы, на якой вісіць шыльда «Для белорусов мест нет!» На сценах некаторых школ ёсць таксама надпісы «Жыве беларуская мова!» і «Жыве Беларусь!»

**Андрэй ДУРЭЙКА**

## Дзеці гуляюць з ртуццю

**У кантэйнеры для смецця каля Гомельскага хімічнага завода вучні СШ № 48 знайшлі вялікую колькасць розанакаляровых пластмасавых ампул. Як пасля высветлілася, там была ртуць.**

Сотні ампул дзеці разнеслі па ўсім мікраёне. Прынасілі іх дамоў, разбівалі, гулялі з ртутным вадкім металам на ганку і ў калідорах школы. Разлітую ртуць давялося збіраць пажарным і работнікам грамадзянскай абароны, якіх выклікалі настаўнікі. Праўда, здаць небяспечнае рэчыва няма куды, бо, як высветлілася, цяпер ніхто ртуць не прымае. Адкуль з'явілася ртуць у Гомелі, высвятляюць праваахоўныя органы.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## У Брэст пускаюць толькі здаровых

**Брэсцкі гарвыканкам зацвердзіў комплексную праграму па папярэджанні венерычных захворванняў і СНІДу.**

Дакумент прадугледжвае правядзенне самых розных мерапрыемстваў. У прыватнасці, больш строга планууецца кантраляваць стан здароўя тых асобаў, якія працуюць у грамадскім харчаванні і дзіцячых установах. Будзе таксама ўзмоцнены кантроль над асобамі, якія адносяцца да «групы рызыкі».

Асаблівая пільнасць медслужбы будуць ставіцца да прыезджых. Замежныя грамадзяне, што прыбываюць у горад на тэрмін больш за тры месяцы, павінны будуць на працягу 10 дзён прайсці поўнае абследаванне на СНІД і венерычныя захворванні. Калі ж высвіца, што чалавек хворы, — улады вымусяць яго пакінуць горад.

*БелаПАН*

# Дарагая наша пошта

*З 4 верасня зноў падняліся кошты перасылкі пошты за межы Беларусі*

Цяпер за звычайны ліст, дасланы ў краіны СНД, трэба заплаціць 4.600 рублёў, за заказны — 7.000 рублёў. Авіятарыф складае 5.500 рублёў за простае пісьмо і 7.900 за заказное. Дарэчы, практыка паказвае, што розніца ў тэрмінах дастаўкі лістоў у краіны СНД па зямлі і паветраным шляхам практычна няма ніякай.

Зазначым, што ўсе тарыфы разлічаныя на перасылку лістоў масай да 20 г. Калі ваш ліст важыць больш, то існуюць асобныя тарыфы, пра якія вам скажуць на пошце. Цікава, што для паштавікоў у спіс краінаў СНД уваходзяць Літва і Латвія, затое не ўваходзіць Азербайджан. За перасылку лістоў у Азербайджан і Эстонію вам давядзецца заплаціць, як за пошту ў Францыю альбо ЗША (7.000 руб. наземным шляхам, авіятарыф — 11.500).

З 1 верасня падаражэлі і тэлефонныя перамовы з краінамі СНД. Танней за ўсё каштуе хвіліна размовы з Украінай — 10.300 рублёў за хвіліну. За перамовы з еўрапейскай часткай Расіі вам давядзецца заплаціць 13.900 рублёў за хвіліну, а з азіяцкай — ужо 14.600. Кошт размоў з Малдовай — 13.900 рублёў за хвіліну. Даражэй за ўсё размаўляць з краінамі Цэнтральнай Азіі і Каўказа. Хвіліна размовы з Арменіяй, Грузіяй, Казахстанам і Кыргызстанам каштуе цяпер 18.200 рублёў, а з Азербайджанам, Таджыкістанам, Туркменістанам і Узбекістанам — 20.800 рублёў. Кошты перамоваў з краінамі Балтыі і астатнім светам пакуль не змяніліся.

**Міхась КАРПОВІЧ**

*Конкурс*

## Моладзь супраць СНІДу

**На сённяшні дзень у Беларусі афіцыйна зарэгістравана 2.173 ВІЧ-інфіцыраваных, амаль палова з іх — 1.163 — у Светлагорску (Гомельская вобласць); у Мінску зараз налічваецца 228 вірусаносьбітаў.**

За тры летнія месяцы колькасць афіцыйна зарэгістраваных ВІЧ-інфіцыраваных узрасла на 138 чалавек. Напярэдадні Сусветнага дня прафілактыкі СНІДу прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН (*UNICEF*) у Беларусі і Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу (РЦПС) праводзяць конкурс у рамках сусветнай кампаніі «Крыніца зменаў: моладзь супраць СНІДу». Як паведамілі ў РЦПС, конкурс адкрыты для ўсіх журналістаў друкаваных і электронных СМІ. Матэрыялы павінны быць апублікаваны або выйсці ў эфір да 1 снежня ўключна. Найбольшую перавагу журы будзе аддаваць працам маладых аўтараў і прызначаным для маладзёжнай аўдыторыі.

*БелаПАН*

## «Крэсавянкі» хочуць замуж. За палякаў

**У Лідзе пры Доме палякаў з'явілася шлюбнае бюро знаёмстваў па перапісцы пад назвай «Крэсавянка».**

Мэта ставіцца такая: паспрыяць стварэнню сем'яў паміж мужчынамі з Польшчы і дзяўчатамі — лідчанкамі. Увогуле ж, у Лідзе многія кабеты яўна паклалі вока на Польшчу. Так, у горадзе ўжо праводзіліся конкурсы прыгажосці палячак «Міс Палонія». Конкурс з такой самай назвай штогод адбываецца ў Польшчы, але — для дзяўчат усёй краіны адразу.

Лідскім палякам увогуле вельмі падабаецца ўсё, звязанае са словам «крэсы» («крэсамі всходнімі» заходнебеларускія землі называлі ў Польшчы часоў Пілсудскага, у 20—30-ыя гг.). Ансамбль польскай музыкі ў Лідзе называўся «Крэсавякі», а нядаўна з'явіўся новы — «Крэсовыя забавы». Цяпер вось яшчэ «Крэсавянка».

**Марыя СТАНКЕВІЧ**

## Россияне запасаются продуктами

**Шоковая ситуация сложилась на продовольственных рынках Москвы и Санкт-Петербурга.**

Тысячи граждан пытаются запастись продуктами впрок. Продовольственные рынки пустеют на глазах, хотя цены уже поднялись в 2–3 раза. Наибольшей «популярностью» пользуются крупы и макаронные изделия. Ситуацию усугубляет и тот факт, что этот год не принес садоводам и огородникам достойный урожай. В связи с этим «закрома» граждан остались полупустыми.

Данная ситуация не идет ни в какое сравнение с положением 1991—1993 годов. Дело в том, что в тот период, когда многое было дефицитом, у граждан имелись весьма обширные запасы продовольствия, в том числе круп и макаронных изделий. Сейчас большинство российских граждан не имеют таких запасов. Многие встретили известие о кризисе, находясь на отдыхе за городом или даже за пределами России, что не позволило своевременно позаботиться о «хлебе насущном».

Б.П.

## Великий шелковый путь – в обход России

**На международной конференции, которая проходит сегодня в Баку, представители 35 государств Европы и Азии намерены обсудить проект создания нового транспортного коридора Азия — Кавказ — Европа в обход России.**

В случае реализации этот проект существенно ослабит и без того шаткие позиции бывшей великой державы в Центральноазиатском регионе. Новый транзитный коридор, создание которого предполагается обсудить в столице Азербайджана, станет альтернативным уже существующему пути через Россию по Транссибирской магистрали. Предусматривается, что новый коридор мог бы возродить дороги торговых караванов Великого шелкового пути, то есть соединить Китай через Среднюю Азию, Иран и Турцию с портами Средиземного моря.

Причин, по которым столь глобальный и достаточно дорогостоящий проект стал актуальной темой для обсуждения, несколько. Прежде всего — Транссиб, то и дело блокируемый российскими шахтерами, уже не может рассматриваться клиентами в качестве надежной и стабильной транспортной артерии. Другими словами, Россия может просто «выпасть» из трансконтинентального Евразийского пути.

Надо отметить, что выбор Баку в качестве места организации конференции тоже не случаен. Азербайджан и другие страны Закавказья тяготеют в историческом и культурном плане скорее к Центральной Азии, и именно богатый нефтью Азербайджан стал сегодня центром новой большой геополитической игры в регионе.

Наиболее надежный способ свести политическое влияние России в Средней Азии к минимуму заключается в том, чтобы сделать Казахстан, Туркмению и Азербайджан независимыми от монополии российских нефте- и газопроводов, и тогда Европа будет получать каспийскую нефть и газ в обход России. В случае же реализации проекта возрождения Великого шелкового пути Россия как транзитное государство может оказаться и вовсе отрезанной от трансазиатских грузопотоков. Можно предположить, что обсуждение именно этих нерадужных перспектив станет одной из главных тем во время сегодняшнего визита Б.Ельцина 8—9 сентября в Казахстан.

Станислав ГРИШАН

# Российский «Титаник» топит СНГ

## *На роль нового лидера Запад выдвигает Кучму*

Российкий кризис привел на край пропасти не только национальную экономику. Он полностью подорвал доверие к России как интеграционному центру и поставил под вопрос существование СНГ. В его нынешнем виде.

Сегодня страны СНГ стараются «отгрести» подальше от России, которая, как тонущий «Титаник», может затянуть на дно соседей. В первую очередь пострадали те, кто поддерживал тесную связь с Россией — Украина, Беларусь и Казахстан, на долю которых приходилось почти 90% всего товарооборота России со странами Содружества. В меньшей степени затронутыми окажутся страны СНГ, у которых в общем объеме внешней торговли доля товарооборота с Россией колеблется от 15—17% (Узбекистан) до 23% (Азербайджан).




В складывающейся ситуации неизбежна утрата российскими компаниями позиций в странах СНГ. В государствах Содружества набирают обороты приватизационные процессы. Еще совсем недавно шансы российских олигархов в получении своей (и немалой) доли при распределении собственности в бывших союзных республиках были высоки. Кризис в России не позволит российским олигархам выйти на просторы СНГ — сегодня речь идет об их выживании. А значит, утраченные российским бизнесом позиции займет в первую очередь западный капитал. Уже сейчас из Содружества поступают сообщения о свертывании деятельности крупнейших российских банков и промышленно-финансовых групп.

Но главный итог кризиса для СНГ — признание порочности принципа его построения. Затеянное в прошлом году реформирование СНГ явно опоздало, и теперь интеграционные процессы на постсоветском пространстве будут идти совершенно иначе. А Россия примет в них участие в лучшем случае как одна из многих. После развала Советского Союза Запад сделал ставку на Россию. События 1993 года заставили западных политиков и инвесторов существенно пересмотреть свое отношение к России. Она осталась основным получателем кредитов и инвестиций. Но уже не единственным. По мнению западных специалистов, разумнее не только «класть яйца в несколько корзин», но и, прикармливая соседние с Россией республики, создавать вокруг нее некий санитарный кордон.

Теперь, похоже, Запад решает, кого ему дешевле и целесообразнее спасать. В последние дни развернулась лихорадочная активность вокруг Украины. В Киев второй раз за две недели приезжает представительная делегация МВФ. Обсуждается вопрос о принятии программы расширенного кредитования экономики Украины. Складывается впечатление, что у Киева шансов больше, чем у Москвы. ЕБРР уже объявил, что не будет снижать объемы инвестирования в Украину. В состоявшихся на прошлой неделе телефонных переговорах с президентом Украины вице-президент США Альберт Гор, премьер Великобритании Тони Блэр, канцлер ФРГ Гельмут Коль, директор-распорядитель МВФ Мишель Камдессю пообещали свою поддержку в обмен на обещания «продолжать курс реформ». Леонид Кучма уверен, что решение о выделении кредита в 2,2 млрд. долларов будет принято на этой неделе.

Делая ставку на Киев, Запад решает две задачи. С одной стороны, определяет лидера в СНГ, который сумеет обеспечить руководство «санитарным поясом» на границе Европы с Россией. С другой — создает для государств Содружества новый центр притяжения, который всегда проповедовал иные, нежели Москва, принципы сотрудничества. Во всяком случае, 7—8 сентября в Баку, где на международной конференции по вопросам энергетики собрались почти все главы СНГ, будут обсуждаться не только проблемы создания транспортного коридора ТРАСЕКА. Одним из центральных вопросов станет принятие согласованного решения о том, каким будет Содружество и как в будущем строить отношения с Россией. И, похоже, в Баку Леонид Кучма приедет уже в качестве нового фаворита Запада, имея в кармане спасительный кредит.

**Юрий ЧУБЧЕНКО,**
*обозреватель газеты «Коммерсантъ-Daily».*

## Пусть Запад купит Балтию у России

*Такова идея Витаутаса Ландсбергиса*

По сравнению с прошлогодней нынешняя международная конференция на тему евроатлантической интеграции, прошедшая на прошлой неделе в Вильнюсе, выглядела весьма блекло. Никто не покушался на жизнь Лукашенко (его, впрочем, и не было). Не было рождено новых идей — за исключением разве что озвученной председателем Сейма Литвы Витаутасом Ландсбергисом.

Ландсбергис заявил: *«Если и в апреле 99-го никого из нас не назовут в качестве кандидата в NATO, это может означать только одно: Запад боится России».*

Профессор Ландсбергис напомнил о проходивших недавно в Пскове учениях с выразительным названием «Возвращение», маневрах в Калининграде с применением «ударных ракет». *«Литва не хочет снова быть вещью на прилавке, вокруг которого торгуются великие торгаши. Почему Запад не может прямо сказать России: вот вам еще миллиард — забудьте про господство над Балтией. Может, это похоже на выкуп заложников, но лучше так, чем давать деньги Москве ни за что и из страха»,* — заявил В.Ландсбергис.

Татьяна КОМОРСКАЯ

## Эскимосы курят гашиш

**Ежегодно в Гренландию переправляется наркотиков на сумму более 75 млн. долларов. То есть на наркотики тратится десятая часть национального дохода острова.**

Причем борьба с проникновением гашиша на этот самый большой остров в мире бесперспективна. Так считает шеф группы по борьбе с наркотиками гренландской полиции Ханс Хаар.

По оценкам экспертов, торговля гашишем стала третьей по величине отраслью экономики Гренландии. Полиция считает, что в этом бизнесе участвуют разные фирмы, принимающие «грязные» деньги и «отмывающие» их, торгуя впоследствии снегоходами типа «Буран», моторными лодками и стереосистемами.

Гренландия является частью Датского королевства. Учитывая, что из 55.000 жителей острова только восемь тысяч выходцы из Дании, а остальные — коренные гренландцы и эскимосы, ясно, что наркомания охватила прежде всего аборигенов. Кстати, Гренландия — самый крупный остров и самая редконаселенная территория в мире. Ее жители обосновались в основном на побережье острова, который, если вырезать контуры из географического атласа и наложить на карту Европы, протянется от Балтии до Средиземного моря.

С.В.

# Продаются записки Мартина Бормана

**Секретный архив ближайшего сподвижника Гитлера Мартина Бормана, в последние дни войны захваченный в Берлине советскими войсками и находящийся в Москве, выставлен на продажу.**

Архив включает миллион страниц, причем не только документы Третьего рейха, но и бумаги из архивов Франции, вывезенные нацистами после взятия Парижа. Уже после капитуляции Берлина бесценные исторические документы были упакованы в стальные ящики и отправлены поездом из Берлина в Москву. Московский журналист Израэль Шамир, один из тех, кто занимается продажей архива, рассказал корреспондентам Times: *«В Москве архив поместили в комнату одного из госучреждений, заперли дверь и забыли о нем на долгие годы. Однако Берия просматривал документы, о чем свидетельствуют его пометки, сохранившиеся на полях некоторых страниц».*

Во времена Горбачева было принято решение об открытии нацистского архива для историков и студентов, однако ничего сделано не было. Средств не нашлось даже на составление каталога. В прошлом году специально созданная частная компания (название ее пока держится в секрете) обратилась к российскому правительству с предложением систематизировать архив и составить каталог за свой счет в обмен на право использовать информацию в коммерческих целях. Согласие было получено. И вот на днях коммерсанты заявили о решении продать архив. Пока российское правительство разрешило продажу лишь копий документов.

Судя по описи, сделанной сотрудниками компании, в архиве содержатся также дневники Мартина Бормана с января по май 1945 года, включая описание последних дней нацистских лидеров, проведенных в бункере.



*Борман был одной из самых загадочных фигур в окружении Гитлера. Его архив содержит много тайн Второй мировой войны.*

Ия МОЦКОБИЛИ

# Двадцать лучших умов XX века

## *Версия американского журнала Time*

**Рейтинги и «табели о рангах» — вещи, конечно, условные: для кого-то лучший писатель Лев Толстой, а для кого-то Доценко. Но тем не менее массовое появление их довольно симптоматично: на пороге XXI века возникает желание подвести итоги, понять, кто же все-таки входит в когорту лучших.**

С этой точки зрения большой интерес представляет мир науки, которая за всю историю человечества не развивалась столь стремительно, как в двадцатом веке, разительно изменив его.



*Символом науки XX века можно считать Альберта Эйнштейна.*

Не случайно, что в этом списке доминируют физики и «космоведы» — именно эти отрасли ознаменованы могучими прорывами в область неведомого. Символом науки XX века можно считать **Альберта Эйнштейна**, который буквально перевернул устоявшиеся представления о незыблемости времени и пространства. Правда, сам себя он скромно сравнил с жучком, который, ползая по поверхности яблока, обнаружил, что оно круглое. При потрясающем охвате ума и энциклопедических знаниях, Эйнштейн плохо учился и отличался крайней рассеянностью. Так, несколько лет он жил вообще без гражданства: не испытывая в нем необходимости, он просто забыл, что его необходимо оформить...

Наибольшее число выдающихся представителей дали, кроме упоминавшихся, такие отрасли знаний, как психиатрия, биология, медицина и экономика.

В сталинские времена в трудах типа «Люди русской науки» все научные открытия приписывались русским ученым — от паровоза до лампочки накаливания. Но в «Топе-20» нашли себе место лишь пятеро русских и советских ученых, если не считать русским эмигранта **Игоря Сикорского**, изобретателя вертолета. В плеяду выдающихся русских ученых входят физиолог **Иван Павлов**, изучавший на собаках законы высшей нервной деятельности, и «отец» современной космонавтики **Константин Циолковский**; сложнее обстоят дела с академиком **Владимиром Вернадским**, круг интересов которого был настолько широк, что трудно отнести его к какой-то определенной профессии. Но достаточно сказать, что он создал теорию ноосферы, то есть сознательной деятельности человека, влияющей на Землю.

Уже в наше время выдающимися учеными были атомщик **Игорь Курчатов** и «Главный конструктор» **Сергей Королев**. Их трудами во многом объясняется долгий неоспоримый приоритет СССР в области атомных исследований и завоевания космоса.

Датчанин **Нильс Бор** уже в 37 лет получил Нобелевскую премию за исследования физики атомного ядра. Спасаясь от фашистов, захвативших Данию, он растворил золотую нобелевскую медаль в бутылке «царской водки» и по возвращении из эмиграции снова выделил из нее золото. Основателю квантовой физики **Максу Планку** («постоянная Планка») в начале века пришлось крепко повоевать за свое право заниматься физикой: наставники заявили, что в физике уже все открыто и делать в ней нечего.

Мало кто из благодетелей человечества спас столько жизней, как изобретатель пенициллина англичанин **Александр Флеминг**. История открытия антибиотика стала уже хрестоматийной (вскрыв пару забытых пробирок, Флеминг обратил внимание, что вокруг разводов плесени погибли все микробы), но стоит сказать, что «счастливой случайности» тут не много: Флеминг потому и вошел в историю науки, что умел видеть и размышлять.

Над тайной структуры ДНК, основы жизни, трудились многие ученые и целые институты, но решающий вклад сделала англичанка **Розалинд Франклин**, работавшая в лаборатории Королевского колледжа в Лондоне. Она покинула ее, возмутившись господствовавшими там порядками: так, мужчинам и их коллегам-женщинам не разрешалось обедать в одном помещении. В 37 лет Розалинд Франклин скончалась от рака.

Если от точных наук перейти к «неточным», то лидирующие позиции тут занимают психотерапевт из Австрии **Зигмунд Фрейд** и английский экономист **Джон Кейнс**.

Узнав о медицинском казусе, когда его друг врач Джозеф Бройер, загипнотизировав, вылечил от тяжелой формы истерии свою пациентку, Фрейд заинтересовался глубинами человеческой психики и ввел в научный обиход понятия о подсознании человека и его огромной роли в жизни. Джон Кейнс пришел в науку, в общем-то, случайно. Государственный служащий, он в середине 30-х годов выпустил книгу, в которой обобщил свои наблюдения над деловой жизнью и внес некоторые предложения относительно механизма вмешательства государства в экономику. Теория настолько пришлась кстати, что вплоть до нефтяного кризиса 70-х годов ей следовало большинство государств.

Медицина блистает созвездием знаменитых имен, но и в нем есть две звезды первой величины: американец **Джонас Салк**, создавший вакцину от неизлечимой болезни — полиомиелита (ею был поражен даже президент США Франклин Рузвельт), и хирург из Южной Африки **Кристиан Барнард**, вторгшийся в святая святых и первый в 1967 году осуществивший пересадку сердца от человека к человеку. Случилось это в кейптаунской больнице Грот Шуур, и первый его пациент, 55-летний Луис Вашкански, очнувшись после четырехчасовой операции, прожил несколько недель с чужим сердцем в груди. Умер он от двусторонней пневмонии. *«Еще в субботу я был никому не известным хирургом из Кейптауна,* — рассказывал о себе Барнард, — *а в понедельник стал известен во всем мире».*

Из теоретиков — исследователей космоса имеет смысл выделить двоих. Именем астронома **Эдварда Хаббла** (США) не случайно назван самый большой телескоп, вынесенный в космос, который неизмеримо раздвинул границы познания Вселенной. Существование астрофизика **Стивена Хокинса** само по себе достойно изумления: полностью парализованный человек, он прикован к специальному креслу, и его речь озвучивает компьютер. Но мозг его не затронут и занят открытием все новых тайн Вселенной; его книга «История времени» стала бестселлером. Правда, в последнее время Хокинс пророчески обещает Земле ужасные времена. *«Через сто лет Земля станет не голубой, а оранжевой»,* — само знаменитое его умозаключение.

Из открытий последнего времени, сделанных в 80-е и 90-е годы, достойны упоминания два имени. Физик из Америки **Луис Альварез** доказал, что виновником практически единовременной гибели динозавров стал врезавшийся в Землю гигантский астероид, и результаты раскопок все увереннее подтверждают его теорию. Самое последнее по времени открытие произошло на наших глазах: менее двух лет назад шотландец **Иэн Уилмут** клонировал овечку Долли. Овца, которая вызвала бурю эмоций во всем мире, живет и здравствует, успела принести потомство, а журнал «Тайм» назвал Уилмута «человеком года», признав, что успешное клонирование высокоорганизованного животного стало самым значительным прорывом в науке в прошлом году.

**Илан ПОЛОЦК**

# Даты і лёсы

## *8 верасня*

Міжнародны дзень салідарнасці журналістаў. Адзначаецца з **1958 г.** у памяць пра чэшскага журналіста Юліуса Фучыка, закатаванага нацыстамі ў верасні 1943 г.

**1430.** У Вільні мелася адбыцца каранацыя Вітаўта. Такім чынам ВКЛ мусіла ператварыцца з княства ў паўнавартаснае каралеўства. На ўрачыстасць было запрошана шмат гасцей. Аднак пасланую германскім імператарам карону перахапілі палякі, рассеклі яе і схавалі ў Кракаве. А Вітаўт праз паўтара месяца памёр.

**1708.** Войскі расійскага цара Пятра I разрабавалі і спалілі Магілёў. Ад усяго горада ацалела толькі прадмесце Лупалава. На працягу месяца былі спаленыя таксама Віцебск, Орша, Быхаў, Мсціслаў ды іншыя гарады.

**1873.** Памёр заснавальнік беларускай навуковай археалогіі, гісторык і этнограф Яўстафі Тышкевіч.

**1943.** Кіраўніцтва РПЦ пастанавіла адлучыць ад царквы ўсіх святароў і вернікаў, якія супрацоўнічалі на акупаванай тэрыторыі з нацыстамі.

**1973.** Была перакрытая рака Вілія (Вялля). Утварылася найвялікшае ў Беларусі штучнае Вілейскае вадасховішча.

**1978.** У мінскім кінатэатры «Мір» адчынілася першая ў Беларусі зала стэрэаскапічнага кіно.

**1993.** Кіраўнікі расійскага і беларускага ўрадаў В.Чарнамырдзін і В.Кебіч падпісалі пагадненне пра аб'яднанне грашовых сістэмаў абедзвюх краінаў.

## *9 верасня*

**1610.** Беларуска-польскае войска на два гады атабарылася ў маскоўскім Крамлі.

**1648.** Падчас штурму Пінска войскамі ВКЛ загінуў казацкі палкоўнік Антон Нябаба, які абвесціў пра ўз'яднанне Палесся з Украінскай казацкай дзяржавай.

**1920.** Мясцовыя партызаны арыштавалі ў Койданаве (цяпер Дзяржынск) камуністаў і прадстаўнікоў савецкай улады і абвесцілі пра ўтварэнне Койданаўскай Незалежнай Рэспублікі. Новая дзяржава праіснавала 4 дні, адбіла першы наступ Чырвонай Арміі, але другі не стрымала.

**1937.** У Вільні адбыўся суд над аўтарам зборніка «На этапах» Максімам Танкам і выдаўцом Труцькам. Спачатку яны былі апраўданыя, але потым, у лютым 1938, асуджаныя на 6 месяцаў астрога за антыпольскую агітацыю.

**1948.** У савецкай зоне акупацыі Карэі была абвешчаная КНДР на чале з «любімым настаўнікам, сонцам карэйскага народа» Кім Ір Сенам.

**1976.** Ад хваробы Паркінсона памёр кітайскі дыктатар Мао Цзэдун. На апошнім паседжанні Палітбюро ЦК КПК, якое праходзіла пры ягоным ложку, Мао заявіў, што адпраўляецца на сустрэчу з Марксам. За некалькі гадоў да смерці Вялікі Стырнавы выбраў месца для свайго пахавання ў манастыры Папаошан, але паплечнікі загадалі выставіць ягоную забальзамаваную мумію ў маўзалеі на пекінскай плошчы Цяньаньмынь. Усе 900 млн. кітайцаў ушанавалі памяць Мао трыма хвілінамі маўчання.

## *10 верасня*

**1855.** Нарадзіўся нямецкі археолаг Роберт Колдэвей, які адшукаў падмуркі Вавілона і нават самой Вавілонскай вежы, якую, як вядома, людзі збудавалі амаль да неба.

**1897.** У мястэчку Дрыса (цяпер Верхнядзвінск) нарадзіўся даследчык усходніх моваў Аляксандр Пальмбах, адзін з стваральнікаў тувінскага нацыянальнага пісьменства і першай «Граматыкі тувінскай мовы».

**1956.** У паўднёвай частцы Ціхага акіяна быў зафіксаваны найбуйнейшы айсберг. На ягонай паверхні плошчай 31 тыс. кв. км. магла б змясціцца ўся Бельгія або Мінская вобласць.

**1983.** У Сіэтле памёр рэкардсмен у вазе сярод мужчынаў былы кіроўца таксі Джон Мінак. На час смерці ў шпіталі ягоная вага дасягала 363 кг, а паступіў ён на лячэнне маючы 635 кг.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# Клиент пропал!

**9 дней без воды и пищи провел в кабине сломавшегося лифта Армандо Пьяцца, 64-летний сторож закрытой на лето гостиницы в итальянском городке Сестриер.**

За это время он едва не отдал богу душу, потеряв в весе 14 килограммов. Последствия могли бы оказаться совсем плачевными, если бы о синьоре Пьяцца не забеспокоился хозяин бара, где сторож был завсегдатаем. Полиция, не обнаружив пропавшего без вести в его жилище, продолжила поиски в здании пустующей гостиницы, которые увенчались успехом.

# «Виагра» в супе

**Испытывая особую симпатию к старичкам, французский ресторатор Жан-Луи Галлан из городка Тонон-ле-Бэн на Женевском озере стал сдабривать заказываемые ими блюда «Виагрой».**

Этот американский препарат, превращающий, говорят, в полноценного мужчину даже безнадежного импотента, месье Галлан растворял в супах, в соусах ко второму, в желе заливных рыбных блюд и даже в мороженом. «Так хотелось одарить пожилых гостей и их жен второй молодостью!» — поотковенничал ресторатор перед нагрянувшими к нему стражами порядка. Но они не поняли его благородного порыва и потребовали, чтобы он прекратил кормление своих посетителей «Виагрой».

# Хочу братишку. Срочно!

**Восьмилетний мальчик из болгарского города Пазарджик ультимативно потребовал от своих родителей «сделать» ему брата.**

С этой целью маленький Тошко Трендафилов утром закрыл на ключ родителей в спальне и объявил, что не выпустит, пока не «произведут» ребенка. Отцу мальчика пришлось выламывать дверь, чтобы не опоздать на работу.

# Храп и риск сердечных заболеваний у мужчин

**Молодые мужчины, которые храпят во сне, а днем постоянно ощущают сонливость, в два раза больше подвержены риску смерти от болезней сердца, чем остальные.**

*«Храп плюс повышенная сонливость днем — такое сочетание чревато серьезными последствиями для здоровья, но многое зависит от возраста»,* — утверждает доктор Эва Линдберг из университетской больницы шведского города Упсала.

«Установлено, что такое сочетание прежде всего сказывается на здоровье молодых мужчин. Оно может быть связано с недиагностированными сердечно-сосудистыми заболеваниями. Храп сам по себе еще ничего не значит. По словам ученых, для людей постарше это не столь актуально, а для мужчин после шестидесяти лет вообще не имеет значения.

Смертность среди мужчин моложе 60 лет, которые храпят и страдают от сонливости днем, в 2,7 раза выше, чем у их сверстников, которые храпят, но сонливостью не страдают, утверждает Э.Линдберг.

Ученые обследовали 3.100 мужчин в возрасте от 30 до 69 лет. В анкете, где были вопросы о сне, храпе и заболеваниях в семье, треть мужчин ответила, что они храпят, а 11 процентов пожаловались на дневную сонливость. За десять лет наблюдения 213 мужчин умерли. У 88 причиной смерти стали сердечно-сосудистые заболевания.

Сопоставление анкет со свидетельствами о смерти дало основание констатировать закономерность — повышенный риск.

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1231 Нумар падпісаны ў друк 07/09/98 (15:43) Наклад — 19.840